ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXX, № 288 Нью Ёрк — Сакавік 1981 — March — New York Vol. XXX, № 288

## ЗДУШВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

На Захад трапіў нядаўна з Польшчы тэкст мэмарандуму галоўнае ўправы: Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства (БГКТ), напісанага 25 лістапада 1980 году, да першага сакратара кампартыі Польшчы Станіслава Кані. У мэмарандуме апісваецца мерапрыемствы польскіх уладаў працягам мінулага дзесяцігодзьдзя, скіраваныя на абмежаньне грамадзка-культурнага жыцьця Беларусаў Польшчы, ды выказваецца рад дамаганьняў. Мэмарандум складаецца з уступу й трох частак.

**На ўступе** выказваецца „поўнае падтрыманьне сацыялістычных асноваў ладу супольнае Радзімы — Польскае Народнае Рэспублікі ў глыбокім перакананьні, што толькі сацыялізм можа запэўніць належнае эканамічнае й грамадзка-культурнае разьвіцьцё беларускае мяншыні ў ПНР".

Мэмарандум нагадвае, што ў часе Другое сусьветнае вайны Беларусы аддавалі сваё жыцьцё „на ўсіх франтох" змаганьня з фашыстоўскімі захопнікамі ды што ў паваенным часе „ладная колькасьць Беларусаў аддала сваё жыцьцё ў змаганьні з рэакцыйным падпольлем".

У мэмарандуме сьцьвярджаецца, што 50 працэнтаў жыхароў Беластоцкага ваяводзтва — гэта Беларусы, але нічога ня кажацца пра тысячы Беларусаў, якімі заселеныя заходнія г.зв. „зьвернутыя землі" сучаснае Польшчы (відаць, гэткае нагадваньне было-б „ня ў добрым тоне").

Далей галоўная ўправа БГКТ „з болем" пералічае некаторыя зьвы 1970-х гадоў, што прывялі да „затармажэньня разьвіцьця статутавае дзейнасьці БГКТ" — у пагвалтаваньне Заключнага Акту Гэльсынкаўскага пагадненьня 1975 году, зь якога падаецца цытата.

**У першай частцы** пералічаныя чатыры галіны беларускага культурнага жыцьця, у якіх правы Беларусаў былі звужаныя, ато й зусім папатаныя.

1. Асабліва ўцярпела справа навучаньня беларускае мовы. Сталася гэта ў выніку зьмены ў лютым 1971 году прынцыпу дабраахвотнасьці навучаньня роднае мовы, а таксама ў выніку „незаконных пастановаў мясцовых уладаў", занядбаньня ў галіне падручнікаў і навучальных праграмаў. Вытварыўся „клімат ігнараваньня гэтага пытаньня". Вынік: калі ў 1950-х—1960-х гадох лік вучняў, што навучаліся беларускае мовы, замацаваўся быў на вышыні 10-11 тыс., дык у 1980/81 навучальным годзе лік гэты абнізіўся да 3,4 тысячы. „Існуе нагроза, што калі пакінецца гэтую справу на дасюлешнім шляху, дык у бліжэйшых гадох беларускае школьніцтва на Беласточчыне падпадзе пад поўную ліквідацыю або абмяжуецца да сымбалічных ці гратэскавых памераў".

2. Паважным тормазам разьвіцьця беларускага літаратурнага асяродзьдзя сталася выдавецкая палітыка адміністрацыйных уладаў. Працягам 1970-х гадоў была магчымасьць выдаваць менш як па адным выданьні на год у галіне красапісьменства, прытым вельмі абмежанага лістажу. Аўтарам даводзіцца чакаць гадамі на выданьне чарговае невялікае кніжачкі. Беларускім празаікам і паэтам у Польшчы лягчэй цяпер выдаць свой твор у польскім перакладзе, як у беларускім арыгінале.

Мэмарандум прапануе, каб пытаньне беларускіх літаратурных і навуковых публікацыяў было разгляданае ня ў Міністэрсьцьве Нутраных Справаў, а ў тых самых інстытуцыях, у якіх разглядаюцца польскія літаратурныя й навуковыя выданьні. Прапануецца таксама, каб быў адноўлены бюджэт на аўтарскія сустрэчы, якіх у 60-х гадох беларускія аўтары мелі па колькісот штогоду, але якія цяпер абнізіліся да колькіх дзесяткоў.

3. „Беларускае асяродзьдзе й актыў з пачуцьцём крыўды сустрэлі ліквідацыю ў палавіне 70-х гадоў Беларускага Этнаграфічнага Музэю ў Белавежы, створанага грамадзкім намаганьнем ды які карыстаўся зацікаўленьнем спэцыялістых і жыхарства... Дасюль у беларускім асяродзьдзі выклікае абурэньне факт падступнага забраньня й прысабечаньня экспанатаў із зьліквідаванага згары Беларускага Музэю".

У мэмарандуме кажацца далей, што спробы апрацаваць супольна з Варшаўскім Унівэрсытэтам манаграфію беларускага фальклёру напаткаюцца на сталае супрацьдзеяньне адміністрацыйных уладаў. Падобнае стаўленьне й да ініцыятывы выданьня навуковых працаў, зь якіх апошні том выйшаў у 1974 годзе, „блізу ў канспірацыйных умовах". Ад таго часу й гэткія магчымасьці заблякаваныя.

4. У 1971 годзе быў зьліквідаваны папулярны на Беласточчыне эстрадны ансамбль „Лявоніха", „што быў ня толькі візытнай карткай БГКТ, але таксама й эфэктыўным прапагандыстым беларускае песьні ў польскім асяродзьдзі".

Беларускія харавыя, танцавальныя й драматычныя самадзейныя гурткі пазбаўленыя дастатковае інструктарскае, рэпэртуарнае й фінансавае дапамогі.

„Значны адмоўны ўплыў на дзейнасьць БГКТ на мясцох мела праведзеная, з нагоды зьменаў адміністрацыйнае структуры дзяржавы, ліквідацыя паветавых аддзелаў БГКТ. Сучасная двуступенная структура БГКТ (галоўная ўправа й мясцовыя аддзелы) пры абмежаньнях штату й транспарту пазбавіла нашае таварыства магчымасьці эфэктыўнае арганізацыі працы на мясцох".

У мэмарандуме далей кажацца, што невялікі лік штатных працаўнікоў галоўнае ўправы БГКТ (18) належыць да найменш аплачваных у краі. БГКТ адміністрацыйна й фінансава падпарадкаванае Міністэрству Нутраных Справаў у Варшаве (польская культурная дзейнасьць праводзіцца ў рамках міністэрства культуры — Рэд. „Б-са"), але не карыстаецца аднак прывілеямі, якімі карыстаюцца працаўнікі МНС.

**У другой частцы** мэмарандуму тлумачацца прычыны гэтых зьяваў. Вось поўны тэкст тлумачэньня:

„Сытуацыя гэтая ня вынікае зь цяжкасьцяў аб'ектыўных, што ілжаць у беларускім асяродзьдзі. Сьветчаць пра гэта дастатковыя з гледзішча колькаснага й якаснага кадры інтэлігенцыі й грамадзкіх дзеячоў, якія здольныя справіцца з вымогамі школьніцтва, культурнае літаратурнае й навуковае дзейнасьці, а таксама з патрэбамі арганізацыйнае працы БГКТ. Не вынікае таксама, каб цяжкасьці гэтыя ўзьнікалі зь ініцыятывы паасобных органаў цэнтральнае й ваяводзкае дзяржаўнае адміністрацыі. Адміністрацыя гэтая ў 1960-х гадох выяўляла зразуменьне асьветна-культурных патрэбаў беларускага жыхарства й турбавалася, каб іх задавольніць. Затое ў 1970-х гадох гэтае іхнае стаўленьне істотна зьмянілася.

„Мы разумеем, што крыніца праблемы ляжыць у пастановах партыйных уладаў, якія выказалі ў гэтым часе шторазь меншае зацікаўленьне асаблівасьцямі беларускае нацыянальнае мяншыні. Вельмі важнае значэньне з гэтага гледзішча мела прынятая 20 лютага 1976 году пастанова III пленуму ЦК Польскае Задзіночанае Работніцкае Партыі (кампартыі Польшчы — Рэд. „Б-са") „Аб паглыбленьні патрыятычнага адзінства народу, аб умацаваньні дзяржавы й разьвіцьця сацыялістычнае дэмакратыі", якая сфармулявала прынцып аднароднае польскае этнічнае дзяржаўнасьці. Пастанова гэтая, будучы ўхілам ад ленінскае нацыянальнае палітыкі, мела вялікае значэньне ў практычнай дзейнасьці адпаведных цэнтраў дзяржаўнае адміністрацыі, бо ствярыла тэарэтычную аснову для няпрызнаньня нацыянальнае асобнасьці Беларусаў — грамадзянаў ПНР. Далейшыя крокі былі ўжо толькі еймым разьвіцьцём.

„У гэтай сытуацыі паўсталі пэўныя цяжкасьці таксама ў палітычнай працы мясцовых партыйных інстанцыяў на Беласточчыне, а таксама БГКТ, бо ўжываныя ў нашай прапагандзе лёзунгі ня мелі пацьверджаньня ў штодзённай партыйнай дзейнасьці. У моц абставінаў гэта прывяло да паслабленьня сувязяў з актывам і жыхарствам і ў выніку — спад гэтак патрэбнай у нашай дзейнасьці грамадзкае энэргіі".

**У трэйцяй частцы** мэмарандуму у васьмёх пунктах пералічаюцца мерапрыёмствы дзеля „нармалізацыі стану беларускага жыхарства Беласточчыны ў кірунку запраўднага раўнапраўя, асабліва ў галіне асьветы й культуры".

1. Перагляд пастановы III пленуму ЦК кампартыі Польшчы (1976 г.) штодо „прынцыпу этнічна аднароднае дзяржавы" ды прыняцьцё канструктыўнае праграмы дзейнасьці партыйных і дзяржаўных уладаў у галіне нацыянальнае палітыкі.

2. Забясьпечаньне прапарцыянальнага да нацыянальнага складу жыхарства Беластоцкага ваяводзтва беларускага прадстаўніцтва ў Сойме ПНР, Ваяводзкай Нацыянальнай Радзе ды ваяводзкім партыйным камітэце.

3. Забясьпечаньне стабільных прынцыпаў навучаньня роднае мовы для дзяцей беларускае нацыянальнасьці.

4. Аднаўленьне дзейнасьці зьлківідаваных у 1970-х гадох культурных установаў, уласобку Беларускага Этнаграфічнага Музэю й мастацкага гуртка „Лявоніха".

5. Забясьпечаньне нармальных умоваў творчае працы (літаратурнае й навуковае) праз пабольшаньне выдавецкіх магчымасьцяў у галіне мастацкае літаратуры да 3-4 назваў штогоду, а таксама выданьня „Навуковых гадавікоў БГКТ". Стварэньне з гэтай мэтай рэдакцыі выдавецтваў у беларускай мове ў межах аднаго з рэгіянальных выдавецтваў, прыкладам беластоцкаальштынскага „Паазер'я".

6. Пабольшаньне тыражу тыднёвіка „Ніва" ды стварэньне магчымасьці перадачаў на беластоцкай радыястанцыі Польскага Радыё і тэлебачаньня ў беларускай мове (цяпер існуе адна 20-хвілінная перадача на тыдзень у часе найменш адпаведным для слуханьня).

7. Стварэньне гмінных (сельскіх) аддзелаў БГКТ і прадстаўленьне ім магчымасьці ўдзелу ў грамадзкакультурным жыцьці гміны нароўні зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі. Стварэньне магчымасьцяў дзеячом БГКТ інфармаваць пра свае праблемы, дасягненьні й патрэбы праз радыё й на тэлебачаньні.

8. Аднаўленьне права праводзіць праз БГКТ эканамічную дзейнасьць з мэтай здабыцьця больших сродкаў для свае статутавае дзейнасьці.

У канцы мэмарандуму галоўная ўправа Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства выказала перакананьне, што дадатнае стаўленьне дзяржаўных уладаў да патрэбаў беларускае нацыянальнае мяншыні выклікне „нарастаньне камплексаў і напружаньня ў гэтым пытаньні" ды забясьпечыць спрыяльныя ўмовы далейшага разьвіцьця.

## ПРЫВІТАНЬНЕ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

Вітаю ўсіх Беларусаў з 63-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 Сакавіка 1918 году! Гэтым векапомным Актам была адноўленая беларуская дзяржаўнасьць, якой летась споўнілася 1000 год.

Аднак брутальная сіла маскоўскіх бальшавікоў зьнішчыла Беларускую Народную Рэспубліку й паняволіла беларускі народ.

63 гады трымае бальшавіцкая Масква Беларусь у паняволеньні. Вывозіць нашыя багацьці, душыць у калгаснай паншчыне беларускае сялянства, гнобіць у партыйным прымусе рэботнікаў і інтэлігенцыю.

Нішчыць беларускую культуру, перасьледуе беларускую мову, русыфікуе беларускія школы, русыфікуе народ. Паводля маскоўскага рэцэпту беларускі народ, як і іншыя падсавецкія народы, мае зьнікнуць зь ліку народаў, бо павінен зьліцца, як і іншыя, у вадным расейскім народзе, аблыжліва званым „савецкім народам".

Паратунак ад гэтага толькі адзін — **бескампрамісна змаганьне!** Мы можам лічыць на дапамогу вольнага сьвету толькі тады, калі самі будзем змагацца з нашым ворагам. У змаганьні за вызваленьне нашай Бацькаўшчыны з маскоўскага ярма мы павінны браць удзел дружна й вытрывала **ўсе як адзін, усе Беларусы — бяз розьніцы веры, паглядаў і перакананьняў.**

Гэтага чакаюць ад нас браты й сёстры нашы ў паняволенай Беларусі. Гэты абавязак на нас наклажылі абставіны й гісторыя.

ХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАНЬНІ!
ХАЙ ЖЫВЕ МІЖ НАС НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДЗІНСТВА И ЗГОДА!
ДАПАМАЖЫ НАМ, УСЕМАГУТНЫ БОЖА!

**В. Жук-Грышкевіч**
**Старшыня Рады БНР на чужыне**

## СЬВЯТЫЯ КІРЫЛА Й МЭТОД

Два разы на год і два разы ў кажнай сьв. Літургіі мы ўшаноўваем славутых нашых Апосталаў, сьвятых Кірылу й Мэтода. Ужо гэтая літургічная практыка выразна сьветчыць пра важнасьць гэтых сьвятых для нас, для нашага народу, як вястуноў Божага Слова. Сьвятых Апосталаў Кірылу й Мэтода славяць як праваслаўныя, гэтак і каталікі.

Рубіну стварыць адмысловы камітэт для гэтае мэты. У камітэт увайшлі розныя царкоўныя дастойнікі зь кіраўніцтва Рымскае Царквы, рэктары славянскіх калегіяў ды прадстаўнікі ўсіх славянскіх народаў у Рыме. Беларусаў рэпрэзэнтуе ў камітэце а. др. Робэрт Язэп Тамушанскі, адказны рэдактар беларускае праграмы Ватыканскага радыё.

У праграме сьвяткаваньня абвеш-



**Пасьля суслужэньня із Сьвяцейшым Айцом Папам Янам Паўлам II а. др. Робэрт Тамушанскі (справа) і а. Архімандрыт Юры Эльдароў (Баўгарын).**

Кірыла й Мэтод былі роднымі браты. Нарадзіліся яны ў горадзе Салуні ў паўночнай Грэцыі ў дзявятым стагодзьдзі ды сталіся гарачымі прапаведнікамі сярод Славянаў. Яны пераклалі Сьвятое Пісьмо й літургічныя кнігі ў стара-славянскую мову ды выпрацавалі адмысловы альфабэт (кірыліцу). Гэткім парадкам, яны сталіся айцамі культуры славянскіх народаў, у тым ліку й нас, Беларусаў.

Сьв. Кірыла памёр у Рыме 14 лютага 869 году, пражыўшы толькі 42 гады. Ягоны брат сьв. Мэтод памёр у Маравіі (сяньняшняя Чэхія) ў 885 годзе, праўдападобна 6 красавіка. Мошчы сьв. Кірылы захоўваюцца ў Рыме ў старадаўнай базыліцы сьв. Клімэнта.

Сто гадоў таму Папа Леў XIII увёў сьвята ў гонар гэтых сьвятых і ў лацінскі абрад на цэлым сьвеце. Да таго часу іхнае сьвята сьвяткавалася толькі між Славянаў, праваслаўнымі й каталікамі.

Напрыканцы 1980 году Яго Сьвятасьць Папа Ян Павал II асабліва падкрэсьліў вялікія заслугі сьвятых Кірылы й Мэтода ды абвесьціў іх патронамі Эўропы, разам із сьв. Бэнэдыктам. Гэткім парадкам, Сьвяцейшы Айцец сымбалічна лучыць у вадно Заходнюю і Ўсходнюю Эўропу ды ўсіх хрысьціянаў Усходу й Захаду.

Абвешчаньне сьвятых Кірылы й Мэтода патронамі Эўропы Папа Ян Павал II — першы Славянін, якога Бог паклікаў на пасад сьв. Апостала Пятра — зрабіў вельмі ўрачыста й фармальна апостальскім дэкрэтам, пад загалоўкам „Эгрэг'е Віртутыс" (Надзвычайнай цноты), даным у Рыме 31 сьнежня 1980 году.

Каб як мага больш урачыста адсьвяткаваць гэтае прызначэньне, Сьвяты Айцец даручыў прэфэкту Сьвятое Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў Кардыналу Ўладыславу чаньня гэтых вялікіх нашых сьвятых патронамі Эўропы, сёлета 14-га лютага, якраз у дзень сьвята сьв. Кірылы й Мэтода, Папа Ян Павал II адслужыў урачыстую Літургію ў базыліцы сьв. Клімэнта ў прысутнасьці 20-х кардыналаў, множства біскупаў і вернікаў, сярод якіх было шмат Славянаў, што жывуць у Рыме. Суслужылі з Папам чатыры кардыналы, пяць біскупаў і тры сьвятары.

Сярод суслужэбнікаў былі прадстаўнікі пяцёх славянскіх народаў: ад Харватаў — Кардынал Франьё Шэпэр, ад Палякоў — Кардынал Уладыслаў Рубін, ад Славакаў — Маньсіньёр Язэп Томка, ад Украінцаў — Маньсіньёр Міраслаў Марусын, ад Баўгараў — а. Архімандрыт Юры Эльдароў з Ватыканскага радыё, ад Расейцаў быў прадстаўніком а. рэктар калегіі „Русыкум" — Джына Кірыл Піёвэсана, ды ад Беларусаў суслужыў а. Тамушанскі.

Хоць Літургія служылася паводля лацінскага абраду, пяць суслужэбнікаў належалі да абраду бізантыйскага: Маньс. Марусын зь бізантыйска-украінскага абраду, Маньс. Крыстэа — зь бізантыйска-румынскага, Архімандрыт Эльдароў зь бізантыйска-баўгарскага, а. Піёвэсана — зь бізантыйска-расейскага абраду ды а. Тамушанскі — зь бізантыйска-беларускага.

Усе яны суслужылі ў рызах бізантыйскага абраду.

У сваёй казані Папа Ян Павал II (Вайтыла) даў кароткі нарыс жыцьця сьвятых Славянскіх Апосталаў Кірылы й Мэтода, якую закончыў прыгожаю малітваю да гэтых сьвятых за адзінства хрысьціянаў.

Па службе Божай Яго Сьвятасьць асабіста падзякаваў цёплымі словамі кажнаму суслужэбніку.

Рым, 1.III.1981 г.

**Р. Т.**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.**
Выходзіць месячна. **Рэдагуе Калегія.**
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРА ЎСХОДНЮЮ МЯЖУ ПОЛЬШЧЫ

**„Складаная й балючая праблема"**

Польскі эміграцыйны друк, слушна асуджаючы чырвоны савецка-маскоўскі імпэрыялізм, які сяньня пагражае ўсяму вольнаму сьвету, сам яшчэ дасюль ня спыняе выяўляць імпэрыялістычныя прэтэнсіі: ён упорыста дамагаецца „звароту" „Ўсходніх Земляў Рэчыпаспалітае", г. зн. былых Заходняе Беларусі й Заходняе Ўкраіны. Гэта значыць, што Палякі-эмігранты прэтэндуюць ні больш ні менш, як блізу на палавіну Беларусі ды вялікую частку Ўкраіны. Апэтыт, што й казаць, не малы!

Бадай адзіны польскі эміграцыйны часапіс, які ня толькі прыймае сяньняшнюю ўсходнюю дзяржаўную мяжу Польшчы, але й прыхільна ставіцца да справы вызваленьня й дзяржаўнае незалежнасьці ўсходніх суседзяў Польшчы — Беларусі й Украіны — гэта літаратурна-палітычны месячнік „Культура", што выходзіць у Парыжы. „Культура" ўважае, што польскія дзяржаўныя інтарэсы вымагаюць падтрыманьня ідэі незалежных Беларусі й Украіны.

Заснаваны малой групай польскіх паваенных эмігрантаў-патрыётаў, Літаратурны Інстытут у Парыжы, які выдае „Культуру", выдае таксама квартальны часапіс „Зэшыты Гісторычнэ" (Гістарычныя сшыткі). Нядаўна, у кнізе 53-й гэтага часапісу, быў зьмешчаны вялікі й цікавы артыкул (эсэ) Андрэя Альбэрта пад заг. „Усходнія межы Польшчы".

На пачатку артыкулу аўтар піша: „Існуе канечная патрэба ўважлівых досьледаў і працаў датычных да складанае й балючае праблемы дачыненьняў паміж Палякамі ды нашымі найбліжэйшымі суседзямі на ўсходзе: лятувіскім, беларускім і ўкраінскім народамі".

**Пра „польскі характар" усходніх прастораў**

Аўтар артыкулу піша, што тым часам, калі ў дзяржаве, у якой дамінавалі Расейцы — у Савецкім Саюзе — грамадзяне ня мелі палітычных правоў, польская дзяржава, паводля яго, „хоць былі тыя ці іншыя памылкі, нацыянальнасьцям, што ў ёй жылі, грамадзянскіх правоў не адмаўляла". І дадае пры гэтым:

„Польская дынамічная культурная й палітычная стыхія, якую цанілі як Лятувісы й Беларусы, гэтак і Ўкраінцы, была для іх відавочнай канкурэнцыяй і выклікала іхнюю боязь польскае дамінацыі. Мы ў Польшчы мусім гэта памятаць. Аднак, не Палякі былі галоўнай перашкодай на шляху да стварэньня апрычоных нацыянальных дзяржаваў ува Ўсходняй Эўропе, а вялікарасейскі й нямецкі імпэрыялізм".

Але далей аўтар сьцьвярджае:

„Сытуацыя ў Лятуве, на Беларусі й на Ўкраіне пад канец 1918 году была надзвычай складаная. Пры падтрыманьні з боку нямецкіх і аўстрыяцкіх акупацыйных войскаў там паўсталі нацыянальныя ўрады. У сакавіку 1918 году ў Менску была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка, а ў верасьні зьбралася пад нямецкім пратэктаратам літоўская Тарыба, якая абвесьціла стварэньне незалежнае Лятувы".

І тут-жа піша наступнае:

„У лютым гэнага-ж году дзеячы 'Зэту' (ЗЭТ — скарочаны назоў Саюзу Польскае Моладзі, тайнае арганізацыі, заснаванае ў 1886 годзе ў Швайцарыі — У. Б.) і прадстаўнікі польскага грамадзтва гэтых земляў заснавалі Крэсовую Ахову, якая па стварэньні ў лістападзе [1918 г.] польскае дзяржавы дастала фінансавую дапамогу ды пачала прапагандавую дзейнасьць на карысьць польскага характару ўсходніх прастораў даўняе Рэчыпаспалітае. Апрача гэтага, польская грамадзкасьць арганізавала тут Камітэт Абароны крэсаў і Самаабарону Літвы й Беларусі, якой камандаваў ген. Уладыслаў Вэйтка. Галоўнай мэтай гэтых арганізацыяў было захаваньне супакою й недапушчэньне эксцэсаў".

Аўтар нічога ня кажа, якія былі іхныя іншыя мэты. Але беларускае жыхарства сталася з часам сьветкам і аб'ектам „эксцэсаў" польскага гвалту.

Далей аўтар піша пра збройнае польска-ўкраінскае змаганьне на Ўкраіне, якое пачалося цяжкімі баямі за Львоў, ды пра падзел у ўкраінскім нацыянальным руху.

**Ласыя на „Крэсы"**

Не зважаючы на існаваньне й дзейнасьць нацыянальных урадаў на Беларусі, у Ліцьве й на Ўкраіне, Палякі былі ласыя на землі былога Вялікага Княства Літоўскага й Украіны, што ўваходзілі калісьці ў склад Рэчыпаспалітае ды якія яны звалі „Крэсамі". Адны польскія партыі ды арганізацыі імкнуліся рознымі спосабамі захапіць гэтыя землі й далучыць іх да Польшчы, іншыя — мець іх у сфэры польскіх дзяржаўных інтарэсаў, а фактычна ў поўнай залежнасьці ад Польшчы.

Ведамы польскі палітык Раман Дмоўскі, правадыр нацыяналістычнае партыі Нацыянальнае Дэмакратыі, папулярна званае эндэцыяй, хацеў стварыць нацыянальную польскую дзяржаву, але пры гэтым жадаў поўнае інкарпарацыі гэтых земляў да Польшчы з тым, каб ейным суседам на ўсходзе была Расея. Дмоўскі зьвярнуўся ў сакавіку 1917 году да прадстаўнікоў Антанты (Ангельшчыны й Францыі) з мэмарыялам, у якім дамагаўся адбудовы незалежнае Польшчы з улучэньнем у яе губэрняў: Ковенскае, Віленскае, Горадзенскае, Валынскае ды часткі Менскае.

„Гэта была праграма максымум, — піша Андрэй Альбэрт, — якая аднак ня ўлучала ўсіх земляў Рэчыпаспалітае з 1772 году" (год, у якім адбыўся першы падзел Рэчыпаспалітае Расеяй, Прусіяй ды Аўстрыяй — У. Б.).

**Тактычны фэдэралізм Пілсудзкага**

Язэп Пілсудзкі й левае крыло польскага Сойму высоўвалі іншую канцэпцыю, якую падтрымваў таксама Падэрэўскі. Яна, як піша сп. Альбэрт, „прадугледжвала шырокую фэдэрацыю аўтаномных тэрытарыяльных арганізмаў: Польшчы, Літвы, Беларусі й Украіны ў межах аднае шматнацыянальнае дзяржавы накшталт гістарычнае Рэчыпаспалітае, якая аб'ядноўвала Карону зь Вялікім Княствам Літоўскім... Новым элемэнтам у плянаванай фэдэрацыі мела быць Украіна, як магутны й раўнапраўны партнэр. Фэдэрацыя магла-б быць стабілізуючым фактарам у Ўсходняй Эўропе, які ахоўваў-бы яе ад дэструкцыйнага ўплыву расейскага імпэрыялізму й дэспатызму".

Аўтар ня піша, што фэдэрацыйная канцэпцыя Пілсудзкага была адно тактычным ходам, прывабай для ўсходня-эўрапейскіх народаў з мэтай іхнага спаланізаваньня, чаго Пілсудзкі, із зразумелых прычынаў, ня мог выявіць і дзеля гэтага ягоная канцэпцыя сярод Палякоў была непапулярная. Аб гэтым выразна піша ведамы польскі кансэрватыўны публіцысты й прыхільнік палітыкі Пілсудзкага Станіслаў Мацкевіч у сваёй кнізе „Гісторыя **Польшчы** ад 11 лістапада 1918 г. да 17 верасьня 1939 г.".

**Становішча дзяржаваў Антанты**

Дзяржавы Антанты мелі іншы пагляд на справу ўсходніх межаў Польшчы ды запратэставалі супраць польскае акцыі на ўсходзе. Аднак, калі войска атамана Пятлюры адступіла перад бальшавіцкай навалай на захад, Антанта згадзілася на заняцьцё Палякамі Ўсходняй Галіцыі, каб гэтым перагарадзіць шлях Чырвонай Арміі ў апанаваную камуністымі й сацыял-дэмакратамі Вугоршчыну.

У канцы лістапада 1919 году Польшча дастала ад Лігі Нацыяў мандат на адміністраваньне Ўсходняе Галіцыі на тэрмін 25 гадоў. Але ў часе наступу войска ген. Дзянікіна Найвышэйшая Рада Антанты выдала дэклярацыю, якая дазваляла Польшчы арганізаваць сваю адміністрацыю на захад ад лініі, названай пасьля ад прозьвішча брытанскага міністра замежных справаў лініяй Кэрзона.

**Беларусы й Лятувісы не супрацоўнічалі**

Пасьля таго, як савецкая Чырвоная Армія разьбіла ўкраінскае войска атамана Пятлюры, Пятлюра, апынуўшыся ў Польшчы й надалей зь ёю супрацоўнічаючы, стварыў у Хмельніку нацыянальны ўрад ды адбудаваў антыбальшавіцкія партызанскія групоўкі ген. Амельяновіча-Паўленкі. Аднак старшыня Ўкраінскае Нацыянальнае Рады Аўген Пятрушэвіч, які апынуўся ў Вене, ды іншыя ўкраінскія палітыкі нацыянальнае арыентацыі ад супрацоўніцтва з Палякамі адмовіліся.

Андрэй Альбэрт цьвердзіць, што й Беларусы ды Лятувісы ня імкнуліся да супрацоўніцтва з Палякамі. „Пацярпелі няўдачу, — піша ён, — спробы Пілсудзкага стварыць саюз зь іншымі ўсходня-эўрапейскімі народамі.

Ня могучы знайсьці прыхільнікаў фэдэрацыйнае ідэі ў беларускім руху, Пілсудзкі быў змушаны абмежыцца фармаваньнем дробных груповак ген. Станіслава Булака-Балаховіча. На канфэрэнцыі ў Гэльсынках 15-22 студзеня 1920 году, з удзелам дэлегацыяў Фінляндыі, Эстоніі, Лацьвіі, Лятувы й Польшчы, польскай дэлегацыі не ўдалося стварыць супольнага й адзінага фронту. Не зважаючы на шырокі абмен думкамі на тэму мерапрыёмстваў, якія трэба было ўжыць у змаганьні з Чырвонай Арміяй дзеля аховы зацікаўленых старонаў ад бальшавіцкага імпэрыялізму, перашкоды рабіла лятувіская дэлегацыя. Яна цьвердзіла, што для лятувіскае дзяржавы небясьпечнай была ня толькі Расея, але таксама Нямеччына й Польшча... Лятувісы асьцерагаліся польскае дамінацыі ў сфэдэраванай дзяржаве, ня верылі ў раўнапраўе сяброў гэткае шматнацыянальнае дзяржавы ды дамагаліся поўнае сувэрэннасьці.

У гэткай сытуацыі сэнс фэдэрацыі быў сумлеўны.

**Польска-ўкраінская ўмова**

Фэдэрацыйную канцэпцыю Польшча магла рэалізаваць толькі з удзелам часткі сілаў украінскіх. 21-га кастрычніка 1920 году ў Варшаве й была падпісаная польска-ўкраінская ўмова, якою польскі ўрад прызнаў незалежнасьць Украіны, Дырэкторыю УНР з Сымонам Пятлюрам на чале, як урад гэтае дзяржавы, і права Ўкраіны на землі на ўсход ад былое мяжы па рацэ Збруч.

Пілсудзкі 24 красавіка 1920 году рушыў на Ўкраіну супраць бальшавікоў ды пры дапамозе войска Пятлюры ў хуткім часе заняў Жытомір, Бар і Кіеў, але, кажа Альбэрт, „ня маючы агульнага падтрыманьня, размах польска-ўкраінскага наступу аслабеў". Ужо ў чырвені таго-ж году пад моцным напорам бальшавіцкіх сілаў Палякі пачалі хутка адступаць. Разгром польскага войска пад Кіевам быў аднэй з галоўных прычынаў няўдачы ўсходняе палітыкі Пілсудзкага.

**Палякі глядзелі на партнэраў „згары"**

Частку адказнасьці за крах фэдэрацыйнае ідэі Пілсудзкага Андрэй Альбэрт ускладае таксама на польскіх палітыкаў, якія, кажа ён, „ня ўмелі злагодзіць супраціву й засьцярогаў, выкліканых расейскім захопнікам і антыпольскай нямецка-аўстрыяцкай прапагандай, ды часта глядзелі на сваіх усходня-эўрапейскіх партнэраў 'згары'".

Згадваючы Слуцкае Паўстаньне, аўтар піша: „Спозьненым рэхам нацыянальных імкненьняў Беларусаў было антыбальшавіцкае Слуцкае Паўстаньне пасьля падпісаньня перамір'я ўвосені 1920 году. Пара тысячаў дабраахвотнікаў прылучылася тады да аддзелаў Булака-Балаховіча, але па нейкім часе былі пераможаныя пераважаючымі савецкімі сіламі".

**Афэра зь „Сярэдняй Літвой"**

У сувязі з тым, што згодна лятувіска-савецкага трактату Вільня й ейныя ваколіцы меліся дастацца Лятуве, Пілсудзкі яшчэ ў часе польска-савецкіх перамоваў у Рызе пачаў акцыю на Віленшчыне, каб „загарантаваць гэты раён пад польскім кантролем". На ягоную прапанову генэрал Жэлігоўскі сымуляваў бунт свае дывізіі супраць польскага ўраду і, заняўшы 9 кастрычніка 1920 году Вільню, абвесьціў гэтак званую „Сярэднюю Літву". Пад канец 1921 году ген. Жэлігоўскі перадаў уладу цывільнаму ўраду Аляксандра Мэйштовіча, які правёў выбары ў Віленскі Сойм. Беларусы, Лятувісы й Гэбрэі гэтыя выбары збайкатавалі. Узялі ў іх удзел вылучна Палякі. 24 лютага 1922 году выбраны Палякамі „Сойм", адмаўляючыся ад аўтаноміі „Сярэдняе Літвы", прыняў пастанову аб улучэньні Вільні й Віленшчыны ў Польшчу.

**Польшча з жыхарствам „у вялікай меры няпольскім"**

У выніку польска-бальшавіцкае вайны 1920 году й Рыскага трактату 1921 году, які аўтар заве кампрамісам, і для Польшчы палавінчатым разьвязаньнем праблемы, „польская дзяржава — піша ён, — інкарпаравала кавалкі земляў з жыхарствам у вялікай меры няпольскім. Найбольш фатальнай рыская разьвязка, — кажа Альбэрт, — была для Беларусаў і Ўкраінцаў, якія былі штучна падзеленыя паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. Наўсуперак таму, што ўсходнія суседзі Палякоў — Лятувісы, Беларусы й Украінцы, за ўсходняй мяжой ізноў ляжала дзяржава апанаваная Расейцамі, у якой беларускі і ўкраінскі народы мелі адно фармальную аўтаномію".

Аўтар нічога ня піша, якія нацыянальныя правы мелі Беларусы й Украінцы на сваіх землях, што апыніліся пад Польшчаю, сьцьвярджае толькі, што „не ўдалося выпрацаваць пасьлядоўнае праграмы ў дачыненьні да нацыянальных мяншыняў. Чарговыя польскія ўрады, як да 1926 году, гэтак і па травенскім пераварoце (у тым-жа годзе, калі Пілсудзкі захапіў уладу ў свае рукі — У. Б.) хісталіся паміж канцэпцыяй асыміляцыі мяншыняў і абмежанай аўтаноміяй".

Аўтар шмат піша пра захоп бальшавікамі 17 верасьня 1939 году Заходняе Беларусі й Заходняе Ўкраіны.

**Экзыльны ўрад пра „непарушнасьць межаў"**

Польскі экзыльны ўрад у Лёндане ў часе Другае сусьветнае вайны цірaз заяўляў аб непарушнасьці й сувэрэннасьці польскае дзяржавы ў межах 1 верасьня 1939 году ды дамагаўся ад Сталіна й заходніх альянтаў згоды на захаваньне польска-савецкае мяжы, устаноўленае Рыскім трактатам 1921 году. Аднак альянты (Чэрчыль і Рузвэльт) не падтрымалі дамаганьняў польскага ўраду й на канфэрэнцыях у Тэгеране й Ялце прынялі за аснову ўсходняе мяжы Польшчы лінію Кэрзона. Мяжа гэтая была даволі дакладна ўстаноўленая ўмовай паміж прызнаным альянтамі польскім Часовым Урадам Нацыянальнага Адзінства, у які ўвайшоў былы прэм'ер польскага экзыльнага ўраду Станіслаў Мікалайчык, і ўрадам СССР, падпісанай 16 жнівеня 1945 году. Яна йдзе ўздоўж Сану, Бугу, Салакіі, лініі, якая перасякае Белавескую пушчу аж да стыку межаў Літоўскае ССР і Ўсходніх Прусаў каля Пунска. Беласточчына й раён Пярэмышля былі аддадзеныя Польшчы.

**Падсумаваньне**

„Падсумоўваючы, — піша Андрэй Альбэрт, — усходняя мяжа была накінутая Польшчы сілай". Ён слушна цьвердзіць, што жыхарства „ўсходніх земляў даверасьнёўскае Польшчы", якія ён заве „мазаікай народаў", ніколі ня было расейскае. „Гэта, — кажа ён, — былі супольныя землі Палякоў, Лятувісаў, Беларусаў, Украінцаў і Гэбрэяў".

І вось тут ён памыляецца. Ён забываецца, што Беларусы і Ўкраінцы былі на сваіх землях пад Польшчай аўтахтонамі, жыхарствам „тутэйшым". Тымчсам як нялічныя Палякі, падобна як цяпер Расейцы, былі элемэнтам чужым, насланым, у руках якога была адміністрацыя й паліцыйны апарат.

У канцы свайго артыкулу Андрэй Альбэрт піша: „Сяньня, пасьля трыццацёх гадоў ад зробленага гвалту, дамаганьне звароту гэтых земляў выглядае на анахранізм, бо там у выніку жорскіх нямецкіх і савецкіх акцыяў кардынальна зьмяніліся нацыянальныя суадносіны... Калі-б хто-небудзь хацеў сяньня высоўваць справядлівае разьвязаньне справы гэтых земляў, дык першнаперш павінен дамагацца дэмакратызацыі ўмоваў у Ліцьве, на Беларусі й Украіне ды свабоды для гэтых народаў. Узьнікненьне на гэтых землях дэмакратычнага ладу дазволіла-б Палякам, якія там жывуць, вярнуць сабе грамадзянскія свабоды ды захаваць нацыянальную апрычонасьць, а Польшчы — працягваць традыцыйныя культурныя сувязі з даўнымі ўсходнімі тэрыторыямі Рэчыпаспалітае".

Справа аднак у тым, што сяньня на гэтых тэрыторыях амаль няма Палякоў. Аўтар, відавочна, калі ход пра Беларусь, залічае да іх Беларусаў-каталікоў.

**Уладзімер Брылеўскі**

# ДА БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

## КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ У СПРАВЕ ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА КАНАДЫ — ЦЭНЗУС 1981

**СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!**

3-га чырвеня, 1981 г. адбудзецца чарговы перапіс — „Цэнзус" — насельніцтва Канады. Ён абавязковы для ўсіх жыхароў Канады. Каб дапамагчы ў выпаўненьні апытальніка „Цэнзусу", падаём наступныя парады: пытаньні, што датычаць нацыянальнасьці, Беларусы павінны выпаўняць такім чынам:

1. На бачыне 3, пытаньне 6: „Якой першай мовы вы навучыліся змалку й яшчэ яе разумееце?" — На белым прастакутніку, пад № 62, над словамі "Other (specify)" трэба пісаць:

**BYELORUSSIAN**

2. На бачыне 6 і 9, 12, 15, 18, 21, пытаньне 23: „Дзе нарадзіліся?" — На белым прастакутніку, над словамі "Other (specify)" трэба пісаць:

**BYELORUSSIA**

3. На бачыне 6 і 9, 12, 15, 18, 21, пытаньне 26: „Да якое этнічнае групы належыце вы, або вашы продкі належалі?" — На белым прастакутніку, над словамі "Other (specify)" трэба пісаць: **BYELORUSSIAN**

На бачыне 6 і 9, 12, 15, 18, 21, пытаньне 28: „На якой мове вы самі цяпер гаворыце дома?" — Калі вы гаворыце зь кім-колечы пабеларуску, над словамі "Other (specify)" трэба пісаць: **BYELORUSSIAN**

Калі-б сьпярша памылкова ваша паходжаньне было запісанае не беларускім (а, прыкладам, польскім ці расейскім), гэтую памылку вы павінны цяпер абавязкава выправіць, запісваючыся правільна:

**BYELORUSSIAN**

Таронта, красавік, 1981.

КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ



© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# БАЛЮЧАЯ СТРАТА

У панядзелак 16-га сакавіка сёлета неспадзявана й перадчасна адыйшла ў вечнасьць сьв. пам. Каця Ермін, сталая шматгадовая ўдзельніца беларускіх праграмаў у Лёс Анджэлесе. Паходзіла яна зь беларускай праваслаўнай сьвятарскай сям'і зь Беларусі. нарадзілася у Кажан гарадку 20-га ліпеня 1925 году. Дзявочае прозьвішча Талюш. Ейных бацькоў замучылі партызаны. Была настаўніцай у Фрайзынгу. Пражыла ў сужэнстве 34 гады. Якісь час жыла у Чыкага. Працавала на цукровай хвабрыцы й пераплётніцай кнігаў. Была вельмі працавітая. ашчадная, дабрадзейная, гасьцінная і любіла чыстае, прыгожае й сумленнае жыцьцё. Моцна верыла ў Бога, шмат дапамагала матар'яльна сваёй царкве ў Лёс Анджэлесе. У гэтай-жа царкве адбыліся паніхіды па ёй, на якіх прысутнічала шмат прыяцеляў, але найбольш Беларусаў, зь якімі яна сябравала, у згодзе й зразуменьні падтрымоўваючы шмат каго з нас у патрэбе. Дзеля таго беларуская грамада ў Лёс Анджэлесе асабліва цяжка сумуе з прычыны сьмерці дарагой, паважанай і любімай сваёй сяброўкі сьв. пам. Каці Ермін.

Жалоба па ёй моцна прыгнятае блізкіх да яе асобаў, асабліва ейнага мужа сп-ра Пётры Ерміна, які вельмі ўдзячны беларускай грамадзе за чулыя спачуваньні ў ягоным сучасным адзіноцтве. Як адзін з найбліжэйшых ягоных прыяцеляў, прысьвячаю гэтыя ўспаміны сьв. пам. Каці Ермін з пажаданьнем вечнага супакою ейнай душы, а мужу-ўдаўцу шмат духовай і маральнай вытрываласьці ў далейшым жыцьці ды захаваньні нашай шчырай і глыбокай прыязьні.

**Часлаў Найдзюк**

### ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую ўсім суродзічам, прыяцелям і суседзям, якія аддалі апошнюю пашану сьвятой памяці Каці Ермін сваёй прысутнасьцяй на паніхідах па Ёй і на паховінах, якія адбыліся 21-га сакавіка 1981 году на Форэст Лон Мэморыял-Парк у Глендэйле ў Каліфорніі.

Таксама складаю шчырую падзяку ўсім хто прыслаў вянкі й кветкі ды пісьмовыя спачуваньні ў страце спадарожніцы жыцьця на працягу 34-х гадоў.

Няхай Амэрыканская зямля будзе Ёй пухам!

З пашанай

**Пётра Ермін**

**СЬВ.**  **ПАМ.**

**КАЦЯ ЕРМІН**

**Народжаная ў Кажан Гарадку 20 ліпеня 1925 году, адыйшла неспадзявана й перадчасна ў вечнасьць 16 сакавіка 1981 году ў Лёс Анджэлесе, пакінуўшы ў глыбокім смутку мужа Пётру й прыяцеляў-Беларусаў, пра што з жалем паведамляюць**

**СУРОДЗІЧЫ ЗЬ ЛЁС АДНЖЭЛЕСУ**

**СЬВ.**  **ПАМ.**

**МІКОЛА ЛЫСУХА**

**адыйшоў на вечны супачын на 54-ым годзе жыцьця 5 сакавіка 1981 году ў Жувісы-сюр-Орж (Францыя). Нябожчык быў перасьледаваны Саветамі за тое, што змагаўся за лепшую будучыню Беларускага Народу, у сувязі з чым па вайне мусіў пакінуць сваю Бацькаўшчыну.**

# ЦАРКВА СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА У РЫЧМАНД ГІЛЕ, Н. Ё. (1969-1980)

Рыхтуючы бюджэт і плян працы на 1981 год, выплыла пытаньне запраўднага стану прыходу. Каб належна аацаніць яго, трэба бліжэй глянуць на людзкія рэсурсы, духоўную апеку, прагноз на будучыню ды плюсы й мінусы, што з гэтага выплываюць.

У 1970 годзе ў прыходзе было 188 душаў, г. зн. дарослых і дзяцей, што належалі да царквы. У гэным годзе былі ўведзеныя талерачныя канвэрты й было выдана 55 канвэртаў на талерачны збор. Складкі плацілі 47 прыхаджанаў.

У 1980 годзе прыход меў 116 душаў, згодна із сьпісам імёнаў, што а. Архімандрыт Язэп успамінае падчас літургіі. Канвэртаў на талерачны збор было выдана 31. Складкі плацілі 29 сяброў (15 жанчынаў і 14 мужчынаў).

Як бачым, за 10 гадоў прыход паменшаў на 72 душы. Паменшала талерачных канвэртаў на 24 і сяброў, што плоцяць складкі, на 18.

Калі, скажам, падобны працэс будзе працягвацца, дык у 1990 годзе будзем мець: 44 душы, зь іх — 7 асобаў, што будуць класьці канвэрты на тарелку, 11 сяброў, што будуць плаціць складкі (ёсьць сябры, якія плоцяць складкі, але не наведваюць царквы).

Адзінаццаць гадоў таму нашыя пляны й спадзяваньні ўкладаліся ў два пункты:

1) Што ў нас будзе паважны сьвятар у асобе а. Сьвятаслава Каўша, які тады даў згоду быць у нас настаяцелям, прыцягне да прыходу як праваслаўных Беларусаў, так і праваслаўных іншых нацыянальнасьцяў з Рычманд Гілу.

2) Што праваслаўныя Беларусы, якія жывуць у Куіньсе, але не належаць да БАПЦ, прылучацца да нашага прыходу, які ўвайшоў пад апеку Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха.

Што-ж здарылася ў запраўднасьці? Айцец Сьвятаслаў прылажыўся да разьвіцьця нашага прыходу тым, што рэгулярна прыяжджаў із Саўт Рывэру й служыў багаслужбы. Гэта трымала прыход на высокім рэлігійным узроўні, трымала на духу прыхаджанаў і, асабліва, будаўнікоў царквы. Нажаль, мы ня можам знайсьці ані аднае душы ў нашым прыходзе, наяўнасьць якое мы заўдзячвалі-б а. Сьвятаславу. Мы часта чулі ад а. Сьвятаслава на пропаведзі ды ў выказваньнях, што гэта — „вашая царква". Выглядае, што ён сябе ў яе не залічаў. І калі надарылася нагода, ён пакінуў наш прыход у травені 1977 году, пакінуўшы нас безь сьвятара.

Ад травеня да лістапада таго году ня было сталага сьвятара, і службы адбываліся спарадычна з чужымі сьвятарамі. Аплата чужым сьвятаром ды прапушчаныя службы адмоўна адбіліся на прыходзе, як рэлігійна, гэтак і грашова.

Спадзяваньні на тых, што далучацца да нашага прыходу (таму, што ён кананічны) аказаліся неапраўданымі. Беларусы, што жывуць у гэтай ваколіцы, не далучыліся ды напэўна ўжо й не далучацца. Неналежаньне да беларускае царквы раней яны апраўдвалі тым, што яна „некананічная" (у Брукліне). Аказалася, што гэта была няпраўда. Нашая царква кананічная, але яны ня ўступілі ў яе. Яны ніколі ня зьбіраліся й ня зьбіраюцца належаць ні да беларускае царквы, ні да беларускіх арганізацыяў зь ведамых для нас меркаваньняў.

Высьвячэньне а. Пётры Саўчыца ў лістападзе 1977 году абнадзейвала й абяцала палепшаньне стану ў прыходзе. Нажаль, сталася інакш. Айцец Пётра, надзеўшы сьвятарскае аблачэньне, зьмяніў свой падыход да справаў ня толькі рэлігійных, але й грамадзка-беларускіх. Гэта абсалютна ня спрыяла разьвіцьцю ў прыходзе, а наадварот — уносіла разлад між прыхаджанаў. У сваіх пропаведзях і выказваньнях а. Пётра казаў, у адрознасьць ад а. Сьвятаслава, „мая царква" — гэткім чынам, і для яго ня існавала „нашая царква".

Раптам на пачатку 1980 году а. Пётра пакінуў наш прыход, быццам-бы, з прычыны непаразуменьня з дырыгентам хору, а ў запраўднасьці дзеля зусім іншых меркаваньняў, якія, як выглядае, яму гэтак і ня спраўдзіліся.

Ад 7-га студзеня па 23-га сакавіка 1980 году мы ня мелі рэгулярных службаў, што прынесла й гэтым разам страты прыходу, навет яшчэ больш як у 1977 годзе.

Адыход а. Сьвятаслава быў усім зразумелы, а зь людзкога боку й прабачальны. Адыход а. Пётры нікому не зразумелы й тым больш, не прабачальны. Сваім ультыматумам прыходу й сваім раптоўным адыходам а. Пётра зьняважыў прыхаджанаў ды абнізіў свой сьвятарскі сан. На нашую думку, ён павінен быў-бы быць пазбаўлены сьвятарскага сану, пазбаўлены права адпраўляць службы й адміністраваць Сьвятыя Тайны.

Сяньня наш прыход ня той, калі будавалася царква, калі людзі пачуваліся як адна дружная сям'я. Тады, калі й былі якія спрэчкі, дык яны хутка ліквідаваліся ў імя агульнага дабра. Асабліва дружна працавала сястрыцтва пры нашым прыходзе, яно прыдбала вялікія сумы грошай на царкву. Пасьля, нажаль, сяброўкі сястрыцтва пачуліся абражанымі, быццам-бы царкоўная ўправа пачала імі камандаваць. Некаторыя перасталі актыўна працаваць, а некаторыя сталі навет байкатаваць.

Не зважаючы на ўсё гэта, у шмат каго з нас застаўся прыемны ўспамін з таго часу, калі будавалася царква, а таксама пачуцьцё гонару, што заданьне было выкананае. А я асабіста не шкадую ні тых грошай, якія трэба было ўнесьці, ні ўкладзенага часу пры будове, як і адданага пасьля часу, аж да сяньня.

Прыход сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле паслабеў ня з прычыны самых прыхаджанаў, а з прычыны тых, што мелі іншыя намеры, чымся служыць Богу й Бацькаўшчыне, а таксама з прычынаў, выкліканых зьявамі, уласьцівымі сучаснаму жыцьцю кажнае грамады, перш-наперш — гэта хуткая амэрыканізацыя маладога пакаленьня ды адыход у вечнасьць старэйшага пакаленьня.

Із сказанага на пачатку гэтага артыкулу мы бачым, што прыход сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле ня мае добрых пэрспэктываў на фінансаваньне свайго існаваньня навет на наступныя 10 гадоў. Гэта пярэчыць цьверджаньню „Царкоўнага Сьветача", №29 за 1980 год. Там на бачыне 29-й у непадпісаным артыкуле сказана: „У Нью Ёрку хопіць месца і вернікаў на дзьве беларускія праваслаўныя цэрквы. Там патрэбныя лідэры, якія здольныя вясьці народ і якім верыць народ". Цьвердзячы гэта, можа аўтар меў наўвеце не самых Беларусаў, бо праваслаўных іншых нацыянальнасьцяў ёсьць больш як на дзьве царквы. Але яны — не Беларусы (ды яны да нас ня прыходзілі й напэўна ня прыйдуць).

Што да лідэрства, дык аўтар мае рацыю, калі ход пра духоўнае лідэрства ў мінулым, бо папярэднія два настаяцелі ня прыдбалі ані аднаго прыхаджаніна, наадварот — цімала іх адагналі. Але калі аўтар цьвердзіць, што ў нас няма духоўнага лідэра, дык ён моцна мыляецца, бо ў нас ёсьць вельмі рэлігійны й высокай якасьці беларускі сьвятар а. Архімандрыт Язэп (Строк).

А што да мае асобы, успомненай у гэтым артыкуле, дык я сябе за лідэра ня лічыў. Магчыма, людзі ўважаюць інакш. Я ўважаў сябе і ўважаю за добрага прыхаджаніна й грамадзкага працаўніка, які ня цураецца ў сваёй працы ні пяра ні мятлы.

Вельмі добра было-б, каб аўтар таго артыкулу прыслаў да нас хоць якіх 30 прыхаджанаў з Саўт Рывэру із сваім лідэрам, дык нам адпаўбы клопат аб будучыні прыходу. Нажаль, на гэта мы спадзявацца ня можам, бо цяперашні Адміністратар Беларускіх Прыходаў у Амэрыцы можа сказаць гэтак, як сказаў сваім часам ягоны папярэднік сьв. пам. а. Мікалай Лапіцкі: „Да мае сьмерці будзе так, як яно ёсьць, а па сьмерці рабеце, як хочаце". Гэткім прынцыпам нам кіравацца ня можна. Кажны добры сем'янін стараецца сваю здабытую маемасьць перадаць на карыстаньне й карысьць сваім дзецям. І мы, каб быць тымі добрымі гаспадарамі, г. зн. добрымі праваслаўнымі Беларусамі, павінны дбаць, каб наш набытак, гэтая царква, не загінула, а служыла беларускаму грамадзтву.

Апрача гэтага, на нас у Рычманд Гіле, а не ў Саўт Рывэры або іншым месцы, ускладзены абавязак усімі Беларусамі, што ахвяравалі грошы на будову царквы, каб царква сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіле засталася праваслаўная й беларуская. Ахвярадаўцы верылі, што грошы даюць у рукі добрых гаспадароў і беларускіх патрыётаў. Дзеля гэтага нашым заданьнем сталася гэты давер апраўдаць, што значыць — забясьпечыць, каб гэтая царква служыла тым, для каго яна была прызначаная.

Бяручы пад увагу наш сяньняшні стан, выканаць гэта нам будзе ня лёгка. Аднак, не зважаючы на цяжкасьці, мы мусім надалей працаваць, думаць і шукаць разьвязкі.

Праўда, мы — не ізаляваны прыход, бо належым да Беларускае Праваслаўнае Царквы, рэпрэзэнтаванае перад Экзархатам Пратапрасьвіцерам Сьвятаславам Каўшом, але не адміністраванае, бо там ніякае адміністрацыі няма. Настаяцелі прыходаў дзеюць так, як ім падабаецца, ды часта на сваю собскую карысьць. Яскравы прыклад — гэта паступкі а. Мірановіча й а. Саўчыца. Адно, у чым настаяцелі прыходаў у Саўт Рывэры, Тароньце й Чыкага моцна зьяднаныя, гэта — каб захаваць у прыходах сучасны стан. Ім ня выгодна мець свайго беларускага епіскапа, які ўзначаліў-бы Беларускую Праваслаўную Царкву на Чужыне, бо давялося-б яму падпарадкавацца. Гэткія-ж епіскапы беспасрэдна тымчасам у справы прыходаў ня ўмешваюцца, а значыцца, можна так і дзеіць і надалей.

Такое стаўленьне беларускіх сьвятароў — „папоўскае" і шкоднае беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху тым больш, што Ўсяленскі Патрыярх даўно блаславіў Беларусаў на тое, каб яны мелі свайго епіскапа для Беларускае Праваслаўнае Царквы. Царква бязь епіскапа не царква, а дзеля гэтага ў ніякіх рэестрах няма запісанае Беларускае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, не зважаючы на тое, што яна ў запраўднасьці існуе.

На працягу 30-ёх гадоў БЦР-аўскія дзеячы й генэралы не прыкладаліся, каб пераканаць сваіх настаяцеляў у патрэбе беларускага епіскапа. Затое разам зь імі ў вадзін голас крычалі й крычаць, што няма сярод Беларусаў адпаведнага кандыдата на епіскапа. Як выглядае, ані БЦР, ані настаяцелям прыходаў Беларускі Епіскапат не патрэбны, пакуль яны жывуць, а па сьмерці — хоць патоп. Вось вам лідэрства дык лідэрства!

У Амэрыцы ёсьць і другая царква — Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Там таксама шмат добрых Беларусаў. Але й ад іх мы ня можам спадзявацца ані падтрыманьня ані дапамогі, бо яны самі яе сяньня патрабуюць. БАПЦ, як царква, знаходзіцца ў вельмі цяжкім і крытычным стане. Ейныя гіерархі пасварыліся міжсобку ды, каб абладзіць канфлікты, пайшлі шукаць разьвязаньня ў амэрыканскіх судох, як у Нью Джэрзі, гэтак і ў Нью Ёрку. Але мы ведаем, што амэрыканскія суды парадку ў БАПЦ не навядуць, калі самі праваслаўныя Беларусы гэтага ня зробяць.

Дык вось які ў нас, Беларусаў, на сяньня стан у Амэрыцы. Але мы не павінны падаць духам, бо калі чалавек й ня бачыць выхаду зь бяды, дык выхад заўсёды знойдзецца, калі яго чалавек старанна й сумленна шукае. Дзеля гэтага мы павінны перш-наперш наведваць царкву, працаваць ў ёй ды не шкадаваць матар'яльнага падтрыманьня. Усё гэта дапаможа нам утрымаць прыход, а разьвязаньне нашае праблемы можа прыйсьці раней, як мы спадзяёмся. Адылі не забывáймася толькі, што Бог нам дапаможа, калі мы самі будзем сабе дапамагаць.

22 лютага 1981 г. **К. Мерляк**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

У сакавіку 1981 г. паступілі ў касу падпіска й ахвяры:

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю**

**I. ЗША:**

| | |
|---|---|
| 1. В. Лукашэвіч | $ 25.00 |
| 2. П. Ракуць | 20.00 |
| 3. Ул. Глыбінны | 20.00 |
| 4. В. Шчэцька | 15.00 |
| 5. А. Савёнак | 15.00 |
| 6. Х. М. | 10.00 |
| 7. М. В. М. | 25.00 |
| **Разам:** | **$ 130.00** |

**II. КАНАДА:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Такушэвіч | $ 30.00 |
| 2. Ул. Гуцька | 20.00 |
| 3. Я. Бурдзь | 20.00 |
| 4. К. Шыкалюк | 20.00 |
| 5. М. Рачэнка | 20.00 |
| **Разам:** | **110.00** |
| **Разам:** | **240.00** |

Ніжэй зьмяшчаецца справаздача пра ахвяры, сабраныя на Сакавіковым сьвяткаваньні ў Нью Ёрку.

Каб захаваць традыцыю, заведзеную сьв. пам. др. Станіславам Станкевічам, ды дзеля ўшанаваньня Памяці Нябожчыка быў праведзены сёлета гэты збор ахвяраў.

| | |
|---|---|
| 1. Др. Ул. Набагез | $ 100.00 |
| 2. М. Заморскі | 100.00 |
| 3. Ф. Бартуль | 100.00 |
| 4. Ул. Дудка | 25.00 |
| 5. М. Рагуля | 20.00 |
| 6. Ф. і А. Рамано | 20.00 |
| 7. Г. П. | 20.00 |
| 8. В. Русак | 20.00 |
| 9. Ю. Касьцюкевіч | 20.00 |
| 10. Л. Корчык | 15.00 |
| 11. Б. Даніловіч | 10.00 |
| 12. Я. Каханоўская | 10.00 |
| 13. А. Дубяга | 10.00 |
| 14. Л. Норык | 10.00 |
| 15. др. Я. Запруднік | 10.00 |
| 16. П. Драздоўскі | 10.00 |
| 17. А. Русак | 10.00 |
| 18. Я. Азарка | 10.00 |
| 19. З. Кіпель | 10.00 |
| 20. Р. Станкевіч | 10.00 |
| 21. А. Субота | 10.00 |
| 22. В. Тумаш малодшы | 10.00 |
| 23. З. Станкевіч | 10.00 |
| 24. П. Пікулік | 10.00 |
| 25. Ю. Азарка | 10.00 |
| 26. П. К. | 10.00 |
| 27. М. Кунцэвіч | 10.00 |
| 28. К. Мерляк | 10.00 |
| 29. П. Кажура | 10.00 |
| 30. К. Верабей | 10.00 |
| 31. А. Шукелайць | 10.00 |
| 32. А. Андрыца | 10.00 |
| 33. М. Кіпель | 10.00 |
| 34. А. Міцкевіч | 5.00 |
| 35. Б. Яновіч | 5.00 |
| 36. Ю. Андрусышына | 5.00 |
| 37. Л. Стагановіч | 5.00 |
| 38. А. Стаўпецкі | 5.00 |
| 39. А. Ліхач | 5.00 |
| 40. С. Гутырчык | 5.00 |
| 441. В. П. | 5.00 |
| 42. Ананімна | 5.00 |
| 43. Н. і Г. Орса | 5.00 |
| 44. М. Станкевіч | 3.00 |
| 454. В. Тур | 2.00 |
| 46. Ананімна | 2.00 |
| 47. Ананімна | 2.00 |
| 48. А. Акуліч | 1.00 |
| 49. Ананімна | 1.00 |
| **Разам:** | **731.00** |
| **Усяго разам у сакавіку:** | **971.00** |

**Усім тым, што ахвяравалі грошы на газэту „Беларус" Рэдакцыйная Калегія выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

### ПАПРАЎКІ

У № 286 „Беларуса" памылкова было пададзена пра прызначэньне ахвяраў з Ангельшчыны, а таксама была дапушчаная памылка ў вадным прозьвішчы. Падаём правільна (і выбачаемся):

1. М. Баяроўскі на газэту „Беларус" ... $ 23.13
2. А. Лашук заміж вянка на магілу сьв. пам. Ст. Станкевіча .. 16.19
3. М. Чаеўскі заміж вянка на магілу сьв. пам. Ст. Станкевіча 13.88
4. Н. Якубовіч заміж вянка на магілу пам. М. Пэлы ... 4.63

***

У тым-жа № 286 „Беларуса" у пераліку падпіскі было прапушчана прозьвішча: **М. Субоч,** але ягоная складка была ўлічаная ў агульную суму — $ 275.00.

## ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАНЬНЕ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ НА СТАГОДЗЬДЗЕ ЯНКІ КУПАЛЫ!

BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.00, subscription $10.00 per year.

# ABRIDGEMENT OF BYELORUSSIAN CULTURE IN POLAND

Earlier this year, a document describing the plight of the Byelorussian minority in Poland found its way to the West.

In a memorandum dated November 25, 1980, and addressed to Stanislaw Kania, First Secretary of the Polish Communist Party, the Central Council of the Byelorussian Social and Cultural Society (BSCS) lodged a complaint that Polish authorities have violated the Helsinki Fnal Act in regard to the Byelorussians' cultural rights.

Following are the facts as presented in the Memorandum (translation into English was done in London, England, by the Association of Byelorussians in Great Britain).

**
*

The teaching of the Byelorussian language in the primary schools in Bialystok province suffered very severely in the 1970's; the teaching of the language at this level is an essential prerequisite for the maintenance and development of the Byelorussian national identity. The setback was caused by specific modifications introduced into the principle of voluntary native language teaching in February 1971 by the Ministry of Education. It also resulted from unlawful decisions taken by local education authorities while carrying out school reforms, and from neglect in the area of textbooks and educational programs, as well as other reasons. All this was accompanied by a definite attitude of 'turning a blind eye' to the problem on the part of the school authorities. Under these conditions the number of children learning Byelorussian, stabilized at 11-12,000 in the 1950's and 1960's, fell to 3,400 in the school year 1980-81. In the course of yet another educational reorganization, a large number of 4-form primary schools in which Byelorussian was taught were closed down. Children from these schools were bussed to comprehensive rural schools. Unfortunately the education authorities failed to provide the opportunity for these children to continue to receive their education in their native language. There is therefore a real fear that if this state of affairs is permitted to continue, Byelorussian Schools in Bialystok province will soon be either liquidated completely or reduced to symbolic dimensions.

We believe there is an urgent need for a much greater concern to be shown for Byelorussian education than has been the case hitherto. We are convinced that this problem should be the focus of attention not only of the education authorities but also of the Party, the local administration and the Polish press.

2. The publishing policy of the administrative authorities presents a serious obstacle to the development of creative activity in the Byelorussian literary milieu. In the 1970's we were accorded facilities for publishing less than one item per year in the field of belle-lettres, and even then only in a very limited edition. As a rule authors have to wait many years for their turn to publish even a very small book. It is abnormal that the books of some writers are published by national publishing houses in Polish translation before they have appeared in the Byelorussian original. It is also abnormal that some of our writers have to seek editorial assistance in the Byelorussian Soviet Socialist Republic because of the lack of facilities in our country.

Our publishing capacity is worse than minute, and in no way corresponds to the literary potential of members of the Union of Polish Writers.

Without questioning the competence of the Ministry of Internal Affairs in the general guidance and coordination of the activities of the Byelorussian Social and Cultural Society, we request that the Ministry should not itself approve our literary and scientific works for publication, but should refer them to the same institutions which are in charge of Polish literature and science. We further suggest that the Ministry of Internal Affairs should restore to the budget of the Byelorussian Social and Cultural Society the item providing for authors' meetings, and that the amounts should be comparable to the honoraria received by Polish authors. In the 1960s the number of meetings conducted by our writers reached several hundred a year; at the present moment it has fallen to a few dozen.

3. The Byelorussian community was shocked at the closing of the Byelorussian Ethnographical Museum in Bialowieża in the mid-1970's. This museum had been set up as a result of communal efforts and was popular with both the general public and specialists. The attitude of the central and provincial authorities to the question of the museum's existence conclusively indicates their total failure to understand the elementary truth that no society can properly shape its present and its future without a knowledge of its past. Even now the Byelorussian community is outraged at the underhanded manner of the seizure and appropriation of exhibits from the museum. Many people from Bialystok province are now demanding the return of articles which they had donated to the Byelorussian Museum, not to the museum of Ciechanow, where the exhibits were taken allegedly for conservation and where they still remain.

All efforts to compile a monograph of Byelorussian regional folklore in co-operation with Warsaw University have been met with the constant interference of the administrative authorities. Similar treatment is accorded to all attempts to publish scientific works, the last volume of which appeared in almost clandestine circumstances in 1974 with the help of the Bialystok Scientific Society and the Bialystok Provincial Council. Now even that possibility has been blocked.

4. 1971 saw the disbanding of the theatrical group 'Lawonicha'; this group was not only popular in Bialystok province as the theatrical showpiece of the Byelorussian Social and Cultural Society, but it also served as a very effective means of introducing Polish audiences to Byelorussian songs. It also provided valuable training facilities for village amateur artistic groups.

The existing Byelorussian amateur choral, dance and drama groups are denied any effective help in training, arranging their repertoire, and financial assistance. The various bodies engaged in promoting cultural and educational activities amongst the population help only Polish groups, and refer all Byelorussian groups to the Byelorussian Social and Cultural Society; the Society has neither the training staff nor adequate financial resources. Byelorussian artistic groups are therefore left to fend for themselves and are deprived of the chance to make any progress.

5. The closing of local branches of the Byelorussian Social and Cultural Society, resulting from changes in the State administrative structure, has had a considerably adverse effect on our activity at the grass-roots level. The present two-tier structure of the Society (head office and local groups), together with limited staff and meager transport facilities, has made it impossible for our Society to organize any effective activities at the local level.

It is illogical to deny the Society the right to form rural branches, since it is a well-known fact that the majority of Byelorussians live in country areas, and that all their political, professional and social activities are concentrated in the centers of rural district administration.

It must also be stated that the Central Council of the Society has insufficient staff and that their salaries are the lowest in the country. This is shown by the fact that 13 of the 18 employees of the Society were covered by the regulation of June 1980. Before June 1980 their average monthly salary was 2900 zl.

The Society is administered and funded by the Ministry of Internal Affairs in Warsaw; it does not, however, benefit from the regulations in force there or from the privileges available to the Ministry's employees.




Congressional Record

PROCEEDINGS AND DEBATES OF THE 97th CONGRESS, FIRST SESSION

Vol. 127 WASHINGTON, WEDNESDAY, MARCH 25, 1981 No. 48

# BYELORUSSIAN INDEPENDENCE MARKED IN U.S. CONGRESS

This year's observances of the 63rd Anniversary of the Proclamation of the Byelorussian Democratic Republic evoked, as has been the case for several decades, a number of statements by Congressmen and Senators in defense of Byelorussia's freedom. The Byelorussian-American community and, indeed, Byelorussians throughout the world will be heartened to know that America remembers the struggle of the Byelorussian nation for democracy and independence.

Some of the statements below are reprinted as they appeared in the Congressional Record, the official publication of the United States Congress.

THE 63RD ANNIVERSARY OF BYELORUSSIAN INDEPENDENCE

**HON. EDWARD J. DERWINSKI**
of Illinois
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

● Mr. DERWINSKI. Mr. Speaker, today, the Byelorussian-American communities in the United States will commemorate the 63rd anniversary of the proclamation of the Byelorussian Democratic Republic. This proclamation of independence by the Byelorussian people was held in Minsk, the capital of Byelorussia, on March 25, 1918. The break from Communist Russia resulted in retaliation by the Soviet Government just 10 months later, crushing that spark of freedom by creating a Byelorussian Soviet Socialist Republic within the ironfisted grasp of the U.S.S.R.

At the end of World War II, an all-Byelorussian Congress again convened to approve a second proclamation of independence, but without any chance of success.

However, an intense desire to be free remains in the hearts and minds of the people of Byelorussia. Despite the oppression imposed upon them by the Communist regime, the Byelorussians have at every opportunity sought to maintain their national identity.

Throughout their history, the Byelorussian people have transmitted from generation to generation their national spirit through their cultural achievements, language, and rich heritage. The knowledge of what it is to be free and the determination for their renewed freedom continues to inspire these valiant people in their dream of reestablishing their homeland as an independent nation.

It is, indeed, a real tragedy that the Byelorussian people, whose heritage is so rich in the tradition of democracy, live under the oppressive rule of the Soviet Government. It is also unfortunate that these people are not well served by the Voice of America. The Byelorussians are not allowed to learn of the nature of Soviet expansionism throughout the world and the vitality of their respective cultural heritages in the United States because for years the Byelorussians in the Soviet Union have been denied any VOA broadcasts in their own language.

In recent years, the RFE and RL have suffered substantial cutbacks in both staff and operations. These cuts have seriously impaired the effectiveness of their broadcasts in the Soviet Union. As our broadcasts to the Soviet bloc are the principle communication link between the United States and the people within the area, these broadcasts serve as a valuable vehicle disseminating information to those captive peoples in Eastern Europe and the Soviet Union. These radios are our most important nonlethal weapons in our confrontation with the Soviet Government.

Therefore, I plan to again introduce a resolution calling for the extension and improvement of the quality and quantity of programs in foreign languages of the Voice of America, Radio Liberty, and Radio Free Europe, which will increase their impact and effectiveness. I believe that we must make full use of our technological capability to increase the power, number, and performance of transmitters of the VOA, RL, RFE, and to extend their range to overcome, as much as possible, the Soviet interference by jamming.

As we commemorate this anniversary of independence, we also commend and acknowledge the courage of the Byelorussian people. This anniversary serves as a reminder that the spirit of freedom continues to burn in the hearts of the Byelorussian people despite Communist oppression. We must reassure those brave people whose human rights and cultural heritage are held captive, that they will continue to receive our encouragement for their goal of self-determination.

THE 63RD ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE INDEPENDENCE OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

**HON. JOSEPH P. ADDABBO**
of New York
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

● Mr. ADDABBO. Mr. Speaker, today, March 25, is not just any other day for a group of people in the United States and a nation of people in the Soviet Union's westernmost republic. It is special to over 10 million people in the Byelorussian Soviet Socialist Republic and over 1 million Americans of Byelorussian descent because 63 years ago today, in the city of Minsk, the council of the Byelorussian Democratic Republic proclaimed the national independence of Byelorussia.

Unfortunately for the people of Byelorussia they had only a short time to experience their freedom from a Russian Government which for centuries had dominated their people, the Soviet Red Army attacking and conquering Byelorussia in 1921.

One of the purposes of addressing the Congress is to educate the men and women of this country. As representatives of the people we have a duty to inform our citizens about issues they may not be aware of. I am sure that many Americans have never heard of Byelorussia. They have no idea of the harsh, oftentimes inhuman conditions the people of Byelorussia are forced to live under. They have not the slightest notion that millions of Byelorussians, men and women, young and old, were murdered or deported to concentration camps at the hands of the Soviet Government. To Americans who take pride in their culture, religion, and literature, they would find it difficult to comprehend how the people of Byelorussia could survive in a nation where the Soviet Government has sought to destroy their religion, culture, and literature through persistent and systematic policy of Russianization.

But while many citizens in this country would be shocked at the undemocratic conditions imposed by the Soviet Union, a power which shows no concerns for international law, nor in particular, human rights, they would marvel at the strength and courage of the Byelorussian people for remaining as strong and hopeful in someday regaining their rightfully deserved freedom.

This Congress and other Congresses of the free world must continue to do all they can to free those nations who have fallen victim to Soviet expansionism. As we acknowledge the 63rd Anniversary of the Declaration of Independence of Byelorussia we must remember that to forget one nation held captive, forcing people to be prisoners in their own homeland, is to forget them all.●

BYELORUSSIAN ANNIVERSARY

**HON. MILLICENT FENWICK**
of New Jersey
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

● Mrs. FENWICK. Mr. Speaker, I call the Members' attention to the fact that today is the 63rd Anniversary of the Proclamation of the Byelorussian Democratic Republic, which took place in Minsk on this day in 1918.

Unfortunately, shortly after this proclamation, Lenin's Moscow government arranged the proclamation of its own colonial state, the Byelorussian Soviet Socialist Republic.

Since then, perhaps as many as 6 million of the Byelorussian people have been murdered or deported to the concentration camps of Siberia. The Byelorussian language and culture have been suppressed, and Byelorussian prisoners of conscience have languished in Soviet jails.

I hope that this last great empire will soon begin to let the captive nations go free. Until then, we owe the captive people our efforts to speak—at least—on their behalf.●

THE 63RD ANNIVERSARY OF BYELORUSSIAN INDEPENDENCE

**HON. HAROLD C. HOLLENBECK**
of New Jersey
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

Mr. HOLLENBECK, Mr. Speaker, on March 25, 63 years ago, the people of Byelorussia proclaimed their independence from Czarist Russia and declared the Byelorussian Democratic Republic as a sovereign state. I would like to take this opportunity to join with my distinguished colleagues in recognizing this special anniversary which symbolizes the attempts of a proud and courageous people to shape their own destiny.

This period of independence and freedom was short-lived for the Byelorussian people. Shortly afterwards, their beloved country fell victim to Soviet expansionism and a reinstitution of Soviet authority. The Byelorussian people must now struggle to maintain the most basic of human rights under the hardships repeatedly imposed by the Soviet regime. Yet a determination to once again secure their ultimate goal of independence has kept the Byelorussian people persistent in their struggle to break the heavy bond of Soviet domination. The United States is solemnly committed to supporting the efforts of the Byelorussian people toward this end.

I only hope for that day in the near future when we will be celebrating the rebirth of an independent nation—the **Byelorussian Democratic Republic**— and the termination of an era of subjugation.

(More from the Congressional Record in our next issue).

## A HISTORY OF BYELORUSSIAN LITERATURE

**by Arnold B. McMillin**

A good way to introduce oneself to the cultural world of Byelorussia is by reading Professor Arnold McMillin's marvelously written A History of Byelorussian Literature from its Origins to the Present Day. The book's nineteen chapters span the nine centuries of writings in Byelorussia. It reflects not only creative concerns and esthetic values of the Byelorussians, but social and political developments as well. The extensive bibliography, index of persons and index of titles will facilitate a more thorough examination of the 332 pages contained in the book's text.

The volume was put out by the German publisher, Wilhelm Schmitz Verlag, in Giessan in 1977.

Professor McMillin teaches at the University of Liverpool in England.

## TO OUR READERS

If you have anything to say or to ask pertaining to Byelorussia and of interest to our general readership, we would very much like to hear from you. Our address is indicated above. Thank you. **Editors**